Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 22 ліпня 1933 г.

№ 15.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрапалітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12—2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.



## Палажэньне вёскі.

Калі аб галіце нашага сялянства гаворым мы, беларусы — ўсё роўна, з якое партыі, дык у абшарніцкіх сфэрах гэта выклікае страшэннае абурэньне. Калі мы гаворым аб тым, што кармленьне паноў-абшарнікаў на рахунак дзяржаўнага скарбу—каб ня зьвёўся сам сабой у нас гэты „дзяржаўна-карысны“ элемэнт!—недапусьціма, дык дзе-хто гатоў навет вінаваціць нас у „бывротовасьці“. Дык паслухаем-жа, што гаворыць у гэтай справе орган урадавае партыі „Kurjer Wileński“, рэдакцыю якога хіба-ж нельга западозрыць у якіх-колечы „страшных“ імкненьнях.

Дробныя гаспадаркі,—піша названая газэта ў стацьці „Sytuacja wsi na Wileńszczyźnie“ (№ 179 з 9 ліпня с. г.), — у якіх галоўную ролю адыгрывае ўласная праца сяброў сям'і, ня могуць ужо здаволіць навет найбольш неабходных жыцьцёвых патрэб сялянскае сям'і: ня могуць іх пракарміць і апрануць.

У такім палажэньні апынулася сялянская гаспадарка ў-ва ўсей Польшчы. Але „найгорш стаіць справа,—піша „Kur. Wil“,— у Віленшчыне, дзе, побач з найгоршымі ў дзяржаве варункамі клімату і глебы, выяўляецца і нягодная аграрная структура. Звыш 96 працэнтаў агульнае лічбы гаспадарак складаюць гаспадаркі, меншыя за 20 гэктараў абшару; а ў тым—50 прац. маюць менш за 5 гэктараў. Каля 80 прац. зямлі ў дробных гаспадарках (меншых за 20 гэкт.) прадстаўляе шахаўніцу (пабіта на безьліч дробных кускоў і шнуроў). Агульны абраз вясковага жыцьця тутака: галіта, нэндза... Быт большае часьці насяленьня, якое жыве на ральлі з працы сваіх рук, мала адрозьніваецца ад быту тых адзінак у месьце, што, працягваючы руку, жабруюць, просячы кусок хлеба...“

І палажэньне гэтае масы грамадзян дзяржавы,—піша газэта, — усьцяж пагоршываецца. Вёска стогне пад цяжарам церазмерных падаткаў і павіннасьцяў. Датаго-ж—у вёсцы ўсё больш і больш лішніх рабочых рук, для якіх няма працы. Эміграцыя за якіян спынілася, таксама, як і эміграцыя да местаў у сваім краю. Аграрная рэформа, вельмі гучна абвяшчаная ўраз пасьля вайны, зусім замерла. Спынілася і акцыя ў кірунку парцэляцыі і комасацыі.

А што робіцца ў панскіх дварох, якія,

праглынуўшы вялізарныя дзяржаўныя дапамогі, ўсё яшчэ маюць мільярдавыя залеглаьсьці—падатковыя і іншыя? — „Kurjer Wileński" сьцьвярджае іх поўнае банкруцтва.

Вялікшая зямельная ўласнасьць няздольна ў гэтых варунках выкарыстаць пад гаспадарку ўвёсь зямельны прастор. Наагул, вялікшая зямельная ўласнасьць ёсьць менш адпорная на крызіс, чым сялянскія гаспадаркі.

Дык... Вось гэтага зусім лёгічна выплываючага з правільнага асьвятленьня палажэньня „дык"—выв аду з паданых фактаў —„Kur. Wil." ня робіць. Але яго робіць само жыцьцё: яно рашуча дамагаецца не нейкае туманнае дзяржаўнае дапамогі нашай згалелай вёсцы, а перадачы абшарніцкіх зямель, якіх уласьнікі збанкрутавалі і выявілі сваю поўную няздольнасьць да выпаўненьня функцыі карміцеляў краю, тым запраўдным хлебаробам, што на сваіх куртатых гаспадарках самыя страшэнна галадаюць, але аднача сна і падаткі найлепей плацяць, і хлеб у горад вязуць, хоць і адбіраючы яго ад сваіх галодных дзяцей.—Як зрабіць гэту перадачу—гэта ўжо іншая справа. Яе вельмі лёгка мог бы вырашыць урад, карыстаючыся тым, што мільярдавая нядоімка, якая абцяжае вялікую зямельную ўласнасьць, ніколі ня будзе сплачана грашмі і можа быць спагнана толькі зямлёй.

Няўжо ж прыклад суседняе Літвы і суседняе Латвіі, якія далі сялянству зямлю і гэтым шляхам значна аслаблілі ў сябе гаспадарчы крызіс, нікога нічога не навучыў?

# Выкарыстайце летнія вакацыі!

Беларуская студэнцкая моладзь, вучні беларускіх гімназіяў разьехаліся на летні адпачынак па родных вёсках.

Адпачынак ім бязумоўна належыцца. Вёска, хоць і галодная, дае ім вельмі добрыя варункі дзеля ўзмацненьня іх фізычных сілаў: чыстае паветра, сонца, рух. Але ня можа быць, каб наша моладзь у працягу двух месяцаў магла спаць духова: для чалавека, які працуе інтэлектуальна (умыслова), такое бязьдзеяньне папросту мука. Раз прыбываюць фізычныя сілы, ня можа ня збудзіцца патрэба духовае дзеяльнасьці.

Найлепшым выкарыстаньнем інтэлектуальных сіл школьнае моладзі на вёсцы ў гэтыя летнія месяцы ёсьць праца над падняцьцем культурнага роўня вёскі, над буджэньнем у сялянскіх масах нацыянальнае і грамадзкае сьвядомасьці. Але думкі, кіданыя ў масу пры беспасярэдняй сутычнасьці з ёй школьнае моладзі, пасьля выезду апошняе да места лёгка забываюцца. Каб іх падмацаваць, каб яны разьвіваліся ў сьвядомасьці сялянства і далей, трэба даць вёсцы сталага прыяцеля, які заўсёды-б пры ёй аставаўся: кніжку ў роднай мове.

Але бяда ў тым, што цяпер, калі дзеці беларускія прымушаны вучыцца ў польскіх народных школах, падрастаючае пакаленьне ня ўмее чытаць пабеларуску, ня ведае іншых літараў, апрача польскіх. Дык вось беларуская моладзь, якая мае шчасьце вучыцца ў беларускіх гімназіях і жыць беларускім грамадзкім жыцьцём, павінна памагаць вёсцы навучыцца чытаць і пісаць у роднай мове, павінна даць ей ключ да тых нацыянальных скарбаў, якія зьмешчаны ў беларускай кніжцы.

Маладыя нашыя прыяцелі! Падумайце аб гэтым нашым заклiку і, калі вернецеся да места дзеля далейшае навукі, падзяліцеся з намі весткаю, што вы не змарнавалі лета бескарысна!

# Новы паход Масквы проці Украіны.

Прычапіўшыся да ведамага флірту мужа даверу Гітлера, Розэнбэрга, з замежнымі ўкраінцамі дый да нарабіўшага сьмеху на лёндавскай канфэрэнцыі „мэморыялу" Гугенбэрга, у якім той ад імя свайго ўраду „зажадаў", каб Нямеччыне былі „адчынены магчымасьці колёнізацыі... натуральных абшараў для яе экспансіі (пашырэньня) на Усходзе Эўропы",—маскоўскі ўрад, шукаючы „сымпатыкаў ды супольнікаў Гітлера" на Украіне, распачаў новы рашучы наступ на „украінскіх нацыяналістаў".

Некалькі гадоў таму над гэтым ведарачным „мэморыялам" недабітага Гітлерам нямецкага эндэка ў Маскве маглі б толькі пасьмяяцца. Але дурная ды шкодная палітыка самога маскоўскага ўраду стварыла на Украіне такое палажэньне, што яно слушна непакоіць Маскву; дый ня толькі ў галіне ўкраінскага „нацыяналізму", але і ў галіне соцыяльна-палітычнай.

Справа ў тым, што выкліканае галодным крахам і ўсей бальшавіцкай зямельнай палітыкай („калгасацыяй") абурэньне проці камуністычнай сыстэмы і ўлады выклікае ў найшырэйшых масах украінскага сялянства, ня гледзячы на нядаўны разгром вышэйшых культурна-асьветных установаў у цэнтрах нацыянальнага жыцьця Савецкай Украіны,—усё сільнейшую „цягу ад Масквы". Рух соцыяльна-гаспадарчы сярод масаў сялянства прымае ўсьцяж характар нацыянальна-палітычнае барацьбы проці Масквы. І тое, што ў гэтым руху зьліваюцца абодва наймагутнейшыя ў жыцьці народаў мамэнты — соцыяльны і нацыянальны, дае яму вялізарную, непераможную сілу. І гэта, ведама-ж, добра разумее камуністычная Масква, якая якраз лёзунгам злучэньня абодвух гэтых мамэнтаў сьпярша прыхіліла да сябе, а пасьля й падбіла пад сябе народы былае Расеі.

Кардынальным фактам нашых дзён зьяўляецца тое, што гэты злучаны рух „Народаў Расеі", які яшчэ нядаўна ішоў быццам да Масквы, цяпер выразна скіроўваецца проці Масквы. І хто-ж не разумее, што гэты проці-маскоўскі, проці - СССР-аўскі рух народаў выкліканы так сама, як і папярэдні

прыхільны да іх рух, — уласнай дрэннай палітыкай Масквы?

Але замест таго, каб зьмяніць гэтую сваю „новую“ забойчую палітыку, Масква паставіла сабе задачай зламаць у карані гэты варожы да сябе рух, а дзеля таго яна — першым чынам—разьдзяляе абодва мамэнты гэтага руху, каб лягчэй і пэўней разьбіць іх паасобку. Такім чынам і распачата адкрытая вайна ўжо на абодвух гэтых фронтах народнай барацьбы: соцыяльна-гаспадарчым і нацыянальна-палітычным. Таму—адначасна высылаюцца новыя няэьлічаныя атрады войскаў ГПУ дзеля барацьбы з „пасыўным аграрным сабатажам“ дый з „актыўнымі шкодніцкімі арганізацыямі“, і—распачаты новы рашучы наступ на „украінскіх нацыяналістаў“, здавалася-б, ужо разгромленых даўваньня ў першыя гады „ліквідацыйнага курсу“ Сталіна.

---

Але, як гэта ні дзіўна, „украінскі нацыяналізм“—замест таго, каб зьнікнуць дый зьніштожыцца разам з „зьліквідаванымі“ яго правадырамі—ня толькі шырака разьліўся па ўсім краю, „расчыніўся“ ў народных масах дый пранік у рады прававерных камуністаў, але „заразіў“ навет тых найактыўнейшых правадыроў апошніх, якія толькі - што самі чынілі гэты культурна-нацыянальны пагром Украіны, разганялі яе Акадэмію Навук і іншыя асяродкі яе духова-творчага нацыянальнага жыцьця...

Ці-ж гэта—не найлепшы доказ нязьнішчальнага несьмяротнага жыцьця нацыянальнае душы народу?!

Проці-маскоўскі рух на Украіне зайшоў так далёка, разьліўся так шырака дый забраўся так высока, што ў лічбе „заражаных“ апынуўся ніхто іншы, як сам Мікола Скрыпнік, адзін з найстарэйшых камуністаў, супрацоўнік Леніна, заступнік галавы ўраду УССР, сябра Палітбюро і т. д. і т. д...

Гэты самы камуністычны правадыр яшчэ зусім нядаўна „высылаў,—як піша львоўскі „Наш Кліч“,—на сьмерць сотні ўкраінскіх патрыётаў за „нацыяналістычны адхіл“, а цяпер сам паў ахвярай таго-ж самага сьмяротнага грэху проці Масквы... Гэты 100-працэнтны камуніст цяпер абвінавачаны Масквой у тым, што ён „узгадоўваў украінскую моладзь у нацыянал-шовіністычным духу“ дый „прышчапляў ёй штучна (!) проці-маскоўскія настроі“, а таму ён — абвешчаны „здраднікам“ і т. д. Але — замест таго, каб зрабіць публічнае „адрачэньне“ ад сваіх грахоў і „пакаяцца“, як патрэбавала ад яго Масква,—гэты украінскі „ком-патрыёт“ закончыў толькі-што свае жыцьцё стрэлам з рэвальвэру ў сэрца...

Гэтая новая ахвяра вялікае трагедыі Украінскага народу залішне красамоўна кажа ня толькі аб новым страшэнным завастрэньні нацыянальнага тэрору на Украіне, але і аб яўнай і бясспрэчнай перамозе вялікай нацыянальнай ідэі, якая здабывае сабе ўсьцяж прыхільнікаў ня толькі сярод шырокіх нясьведамых масаў народу, але, як бачым, навет—сярод нядаўных ворагаў яго нацыянальнага адраджэньня і палітычнай волі...

---

Нас асабліва цікавяць апошнія сьвежыя факты новага наступу маскоўскага нацыяналізму на фроньце культурнага жыцьця і разьвіцьця Савецкае Украіны, якое, здавалася-б, ня мае нічога супольнага ні з якой „палітычнай небясьпекай“ для Масквы.

У савецкім часопісе „За Камуністычную Асьвету“ зьмешчана нядаўна характэрная

---

**М. Машара.**

# Вось тут і зразумей...

**Драматычны абразок у 2-х адслонах**

(Тэма запазычана з гутаркі з каморнікам *Ю.С.*)

АСОБЫ:

**Антось.**—Яшчэ малады, поўны сіл селянін.

**Ганупя.**—Яго жонка,—прыстойная, маладая кабета.

**Галінка.**—Іх дачка,—8 год.

**Каморнік.**—Паважны чалавек, прыехаўшы на абмер скарбовай зямлі і закватэраваўшы ў вёсцы.

**Тумаш.**—Гаспадар, у якога закватэраваў каморнік. Паджыўшы селянін.

**Солтыс.**—Паджыўшы селянін.

**Янка Дудар.**—Малады селянін. Прыяцель Антося, яшчэ дзяцюк.

**Хлапцы, сяляне і сялянкі.**

ЧАС ДЗЕЯНЬНЯ—1914 г.

1-я адслона, — вечар перад абвяшчэньнем мабілізацыі.

2-я адслона,—раніца другога дня — абвяшчэньне і час мабілізацыі.

На левым баку сцэны відаць бок хаты заможнага вясковага гаспадара, з ганкам і вокнамі на сцэну, у якой кватаруе каморнік.

На правым—відаць бок хаты Антося,—крыху старэй і бядней выглядае, як першая. Дзьверы выходзяць на сьцену, але бяз ганку, сьцяна глухая, без вакон. Пад сьцяной лаўка. Пад застрэшкам вісіць шасток, на ім ускінута з пару лаён бялізны, а на канцы ад гледжаньнікаў—маток нітак.

На заднім пляне — праходзіць упоперак сцэны вясковая вуліца. За вуліцай відаць частка сьцяны нейкага будынку і плот.—

ЗЬЯВА 1-я.

**Ганупя і каморнік.**

**Ганупя** — (Зьнімаючы з шаста лайно. Сама да сябе). Вось жыцьцё, дык жыцьцё... Вось горачка, дык горачка... Каб яна правалілася, такая доля. Кожнае лецейка, як пач-

стацьця, якая дае ў гэтым сэньсе вельмі цікаўны матэрыял.

„У пытаньні аб стварэньні ўкраінскай навуковай тэрмінолёгіі, фразэолёгіі і правапісу,—піша гэты часопіс,—украінскія нацыяналісты праводзілі спэцыяльна шкодніцкую працу, якая ставіла сабе мэтай адарваць украінскую мову і навуковую тэрмінолёгію ад жывое мовы, якой карыстаюцца шматмільённыя масы ўкраінскіх працоўных. Наркомпрос Украіны ў нядаўнай мінуўшчыне не праводзіў барацьбы проці гэтай буржуазна-нацыяналістычнай тэорыі і практыкі. (Наадварот—як ведама, ад 1922 аж да 1928 г. на Украіне праводзілася нацыянальнымі правадырамі ўкраінскага народу — у супрацоўніцтве з урадамі—шырокая ўкраінізацыя ўсяго культурна-асьветнага яго жыцьця...).

„Але цяпер,—кажа далей часопіс,—узьнікае задача ачысьціць тэорэтычны фронт ад буржуазна-нацыяналістычнага сьмяцьця („мусора“), павесьці запраўдна-пролетарскім шляхам тварэньне ўкраінскай навуковай тэрмінолёгіі, папрвіць добра ўкраінскую фразэолёгію і правапіс“...

І вось — спэцыяльна створаная камісія ўжо й распачала працу „ачысткі“...—

Камісія знайшла, што „блізу ўсе слоўнікі засьмечаны тэрмінамі, якія штучна адрываюць украінскую навуковую тэрмінолёгію ад інтэнацыянальнай дый ставяць перагародку паміж ёй і тэрмінолёгіяй, якая зьяўляецца супольнай для ўкраінскай і расейскай моваў“...

Камісія закідае вучоным аўтарам (Акадэміі Навук..) украінскай навуковай тэрмінолёгіі і слоўнікаў, што яны наагул вышуківалі дый уводзілі ў жывую і навуковую мовы „старыя словы, формы і канструкцыі, якія варочалі ўкраінскую літэратурную мову на цэлыя сталецьці назад“...

У выніку ўсіх гэтых разважаньняў — камісія пастанавіла:

Прыпыніць выданьне слоўнікаў дый перагледзіць усе ўжо выданыя, каб ачысьціць іх ад „нацыяналістычнага сьмяцьця“—у мэтах „рашучай уніфікацыі (аб'яднаньня!) тэхнічна-навуковае тэрмінолёгіі, існуючае ўжо ў СССР (гэта значыць—расейскай!) і зразумелае шырокім масам працоўных“...

Ясна, што ўсе існуючыя слоўнікі дый уся багатая ўжо ўкраінская навуковая літэратура будуць „перагледжаны“ у мэтах поўнае іх русіфікацыі, інакш кажучы — будуць папросту зьнішчожаны.

—.—

Трэба, аднак, зрабіць засьцярогу.—

Мы зусім не зьяўляемся аднабокімі прыхільнікамі тэй сыстэмы 100-працэнтнай „нацыяналізацыі“, ці навет „славянізацыі“ навуковае тэрмінолёгіі, якая пануе, прыкладам, у Польшчы, робячы яе навуковую тэрмінолёгію нейкай непераможнай для ўсіх чужаземцаў „тарабаршчынай“... Уразрэз з жывой мовай народу дый літэратурнай яго мовай, якія зьяўляюцца сродкам і матэрыялам мастацкага творства народу, дзе цалком пануе законнае імкненьне да поўні „непаўтарымага своеобразія“ — арыгінальнасьці, навуковая мова—наадварот—мае зусім законнае імкненьне да інтэрнацыяналізацыі. Дзеля таго якраз за падставу навуковае мовы прынялі здаўна не жывую мову якога-небудзь існуючага народу. хаця-б найкультурнейшага з іх усіх, але—мёртвыя мовы: грэцкую і лацінскую, — бо-ж абедзьве гэтыя старадаўныя культуры ляжаць у аснове ўсей сучаснай нашай цывілізацыі.

---

вуцца гэтыя праклятыя кірмашы, дык і няма спакою. Нічога яму ня трэба, і хата свая ня мілая... На ланцугу ня ўтрымаеш... Бедная мая галовачка, бедная! (плача).

**Каморнік**—(чытаючы на ганку газэту, да Ганулі). Суседка!... а суседка!... чаго вы там плачаце?...

**Гануля**—А, як-жа мне, панок, ня плакаць?—усе людзі, як людзі,—даўно ўжо паварталіся з кірмашу, а мой Антось, як пайшоў зраньня, дык вось ужо і сонейка садзіцца, а яго яшчэ няма. А тут — і дзеці, і скаціна,—хоць парвіся, а яму і гора няма... Нічога ня трэба, нічога ня шкода! Спаткаўся там, пэўна, з нейкімі валацужнікамі, ну і п'е... Я ўжо гэта ведаю... ня першы раз... Вось яшчэ і Цудара няма, а гэта ўжо вядомы чалавек! Кожны гадок, як толькі пачнуцца кірмашы, дык і мок-бы, як мачонка, у гарэлцы. Апошнюю сарочку прап'е. Ох, паночку! чуе маё сэрца, не здарма іх абодвух няма!... А мой яшчэ тры рублі грошы ўзяў,— з тых, што пан заплаціў яму за працу пры ланцугу. Меўся купіць солі і чаравікі дзяўчыне Купіць ён, купіць... ведаю, як купіць! Зыйшліся недзе з тым лайдаком, зьбяруць кампаноў з усей ваколіцы, а тыя з яго і душу выцягнуць... Ох, горачка!... прап'юць, усё да капеечкі прап'юць, а дома пасаліць няма чым. Бяздольле маё, бяздольле...

**Каморнік** — Супакойцеся, суседка, супакойцеся!... пэўне ня так ужо яно кепска, як вы думаеце. Антось твой—чалавек працавіты, старэнны. У мяне, пры памерцы, няма нат' другога працоўніка, як ён. У яго кожная праца гарыць у руках. І не дурны, — кемнасьць мае... Іншы раз аж дзіўлюся, як ён усё хутка цяміць! Я без яго ў полі, як бяз рук... абыйсьціся не магу. А вы вось плачаце, наракаеце і пэўне дарма. Спазьніўся з кірмашу?... Ну, дык што ж, калі спазьніўся. Мала якая прычына бывае?... Усяк здараецца. Ды і кірмашы не заўсёды бываюць... калі і выпіць крыху! Ён жа ня п'яніца, чалавек разумны і знае вартасьць цяжка запрацаванага граша. Дык дарма ня плачце. Будзьце пэўны, купіць і солі, і чаравікі.

**Гануля**—(Падчас слоў каморніка стаіць у задуменьні, трымаючы ў руках лайно) Ох, панок, панок! Кепска вы знаеце Антося! Ён старэнны, працавіты і ня п'яніца, хоць чаркі і не адкіне; але характару ня мае. Як пры-

Але гэта зусім ня значыць, што „пера-гляд" гэтай паважнай навуковай працы мо-жа быць зроблены бязграматнымі жандарамі ГПУ ці навет—„дыктатарамі пролетарыяту". У справах навуковых можа быць дапушча-на адно толькі дыктатура навукі, але ніякая іншая, а можа якраз найменш „дыктатура пролетарыяту", які павінен яшчэ сьпярша добра прысвоіць сабе навуку, зразумець яе значэньне дый значэньне для яе разьвіць-ця—яе свабоды й незалежнасьці ад паліты-кі, ня кажучы ўжо—ад паліцыі...

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Прыезд журналістаў з Савецкае Беларусі.** У пачатку жвіўня ў Польшчу мае прыехаць экскурсія журналістаў з Менску, каб завя-заць сувязь з журналістамі Польшчы. Экскур-сія мае прыехаць і ў Віньню.

**Ахвяры ў Беларускі Музэй ім. Ів. Луцке-віча.** Атрыманы гэткія ахвяры ад наступных грамадзян і ўстаноў: 1) ад гр. Ніканюка — 1 манэта; 2) ад гр. К. Мядзёлкі з Шаркаў-шчыны — абраз сьв. Мікалая на палатне; 3) ад гр. М. Машары з в. Таболы — 1 іконка на дрэве; 4) ад гр. Б. Данейкі з м. Карас-ной, Навагр. пав., — сямейныя дакумэнты і дробныя друкі; 5) ад гр. Ставаша — 1 фото-графія антакольскіх трынітараў (1860-62 г. г.); 6) ад Белар. Навукова-Краязнаўчага Т-ва ў Латвіі—3 фатаграфіі з жыцьця беларусаў у Літве; 7) ад Украінскага Нацыянальнага Му-зэю ў Львове—1 кніжка; 8) ад гр. М. Шы-лы — 5 кніжак; 9) ад гр. К. Душэўскага з Коўны — 2 кніжкі; 10) ад гр. Васіля Лука-шыка з Беластоку—праз рукі гр. Я. Драздо-віча—разьба з дрэва; 11) ад гр. Я. Драздо-віча—гліняная сьлязьніца.

Усім паважаным ахвярадаўцам Дырэк-цыя Музэю на гэтым мейсцы выказывае сваю гарачую пад яку.

**З выдавецкае нівы.** Выйшла з друку ў асобнай адбітцы праца Хв. Ільяшэвіча: „Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыцьцё і літэра-турная творчасьць", якая друкавалася ў на-шай часопісі. Выданьне Т. Б. А. Тэксту 37 стр. малога фармату. Цана 50 гр.

**Праграма беларускае мовы ў беларускіх гімназіях.** Выйшла з друку—у выданьні Т-ва Беларускае Асьветы (Т. Б. А.) — праграма беларускае мовы, датарнаваная да таго пера-ходнага тыпу беларускіх гімназіяў, які вы-тварыўся пасьля скасаваньня 1 і 2 клясаў. Праграма абыймае клясы 3—8. Выпісываць можна праз Беларускую Кнігарню Ул. Ман-кевіча ў Вільні, Вострабрамская 1.

**Ад рэдакцыі.** З прычыны таго, што ў гэ-тым нумары пачынаем друкаваць драматыч-ны абразок М. Машары „Вось тут і зразу-мей!", што вымагае шмат мейсца, — іншых матэрыялаў, прысланых для „Літэратурнага Кутка" зьмясьціць ня можам.

**Пашырайце нашу газэту!**

---

дуць гэтыя кірмашы, уцягнуць яго прыяцелі ў сваю кампанію,—падпояць, ну, тады яму і мора па калена. Як чорт на яго ўсьсядзе!... Усё мусіць быць па ягонаму. Ніхто перак слоўца не скажы... Ох, горачка маё, горачка!

ЗЬЯВА 2 я.

Тыя-ж і Галінка.

**Галінка**—(убягаючы з вулкі, з левага бо-ку сцэны, бяжаць на маткі). Мамачка, Ма-мачка! татка йдзе—п'яны, лаецца, сьпявае... дзядзьку Сымону вакно пабіў. Ен ідзе з Дударом па вулцы, — крычыць, а дзядзька Сымон яму нешта праз вакно сказаў, дык татка палкай бразь па вакне. Толькі шклян-кі дзын-дзын-дзын... на дробныя цурачкі разьляцеліся! Аж я спужалася і ўцякла.

ЗЬЯВА 3-я.

Тыя-ж і Антось з Дударом.

(Спачатку з-за сцэны, з левага боку, на вулцы чуваць п'яная песьня. Потым на сцэ-ну па вулцы выходзяць, абняўшыся, п'яным крокам Антось і Дудар).

**Дудар**—(ідучы ўздоўж вулкі з Антосем). Ну, брат, прыехалі! Вось і твая хата... Тры-майся, ваяка, вось і жонка чакае. Дасьць табе перцу на закуску... гэта ня тое, што я —вольны казак! Сам сабе пан!... што хачу,—тое й раблю... куды хачу, туды й іду. Зрэш-та, усё ерунда... перамелецца — мука будзе. Ну, бывай! (цалуюцца). Ідзі спаць. Я адзін да хаты траплю (зьнікае, пяючы, у правым баку вулкі).

ЗЬЯВА 4-я.

Тыя-ж без Дудара.

**Антось**—(зварачываючы з вулькі да ха-ты) Ганулям... Спатыкай гасьця... Сёньня я ў цябе госьць... Ідзі строй абед (да Галінкі). Галінка, дачушка! Хадзі, дам гасьцінца (Га-лінка падбягае. Антось дастае з кішаня ма-ток абаранкаў, з-за пазухі цягне чаравікі і дае ўсё Галінцы) на, на!... (цалуе яе). Насі на здароўе! (з другога кішаня дастае хустку). А гэта дай матцы (ціха да Галінкі). Што, матка дужа злая на мяне? (Ганулям ўдае пра-цу пры бялізьне, але няпрыкметна пазірае на іх).

## На правінцыі.

**Патрэба сваей пляцоўкі.** (М. Краснае, Маладэч. пав.). Ціха йдзе нашае мястачковае жыцьцё, але найгорш тое, што ўсё беларускае заціраецца тут польшчынай. Прычына гэтага тое, што тут пад бокам стаіць войска. Дык ёсьць польская „сьвятліца", дзе ладзяцца польскія спэктаклі, і пры ёй бібліатэчка—выключна з польскіх кніжак, з якіх можам даведацца, як жылі калісь „фрывольныя" (распусныя) дамы і г. д. А беларускае культурна-асьветнае пляцоўкі няма, хоць і ў мястэчку, і ў навакольных вёсках жывуць беларусы. Ці не з'арганізавала-б Т. Б. А. тут у нас бібліатэчкі-чытальні, як у іншых мяйсцовасьцях робіцца? Былі-б мы за гэта вельмі ўдзячныя.

Тутэйшы.

## У Чэхаславаччыне.

**Бюлетэнь АБСА.** Вайшаў з друку № 5 (ліпнёвы) Бюлетэню Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў. Бюлетэнь дае інфармацыі з беларускага студэнцкага жыцьця,—на жаль, ня зусім аб'ектыўныя.

Паміж іншым, Бюлетэнь паведамляе, што з прычыны немагчымасьці склікаць штогодні зьезд АБСА новы ўрад яго выбраны шляхам рэфэрэндуму. Выбраны у склад ураду: старшыня — Алесь Вітушка, першы заступнік— Наталя Гаўрылічанка, скарбнік — А. Калоша, сэкрэтар — Міхась Вітушка, загранічны, эканамічны і прэсавы рэфэрэнты— Я. Ермачэнка, Я. Шутовіч і С. Станкевіч.

АБСА высылае сваю дэлегацыю ў ліку 5 асоб на XV кангрэс СІЕ, які адбудзецца 23. VIII.—2. IX у Вэнэцыі. У сувязі з гэтым кангрэсам урад АБСА падрыхтоўвае выпуск Бюлетэню ў францускай мове.

## У Нямеччыне.

**Студэнцкая арганізацыя.** Як інформуе Бюлетэнь АБСА, у Бэрліне даўжэйшы ўжо час існаваў гурток беларускіх студэнтаў, які ў 1932—33 акад. годзе рээрганізаваўся у Саюз Беларускіх Студэнтаў у Нямеччыне. У склад ураду яго ўвайшлі: Анатоль Шкутка—старшыня, Міхась Маскалік—сэкрэтар, Алесь Крыт — скарбнік, Расьціслаў Каплінскі — вольны сябра і Андрэй Бароўскі — пачэсны сябра.

СБС зьяўляецца чынным сябрам Цэнтральнага Саюзу Загранічных Студэнтаў у Нямеччыне.

# Палітычная хроніка.

**Звальненьне жаўнероў.** Ваеннае міністэрства падрыхтавала загад аб звальненьні са службы жаўнероў-пехацінцаў, нарадзіўшыхся ў 1910 г. Жаўнеры будуць звольнены з палкоў у часе 10—15 верасьня.

**Новыя тэрміны для сплаты падатковых залеглясьцяў.** Камітэт міністраў падрыхтаваў загад аб новай разсрочцы сплаты падатковых залеглясьцяў (недаімак). Залеглясьці, забясьпечаныя гіпотэкай (залогам нярухомасьці), маюць быць разсрочаны на 10 гадоў, незабясьпечаныя — на 4 гады.

**Новы закон аб самаўрадах.** 13-га ліпня ўвайшоў у сілу новы закон аб самаўрадах. Галоўныя зьмены, якія ўводзіць новы закон,

---

**Галінка**—(ціха бацьку) Ня ведаю, татка, я ня была дома. (Вешае абаранкі на шыю і любуецца чаравікамі. Нясе матцы хустку, матка не бярэ і штось ціха кажа Галінцы. Галінка садзіцца на лаўку, пад хату, любуецца чаравікамі і есьць абаранкі).

**Антось**—(убачыўшы на ганку каморніка,—разьвязна). А! наша вамі... Добры вечар пану каморніку!...

**Каморнік**—(апускаючы газэту). Добры вечар, Антось!

**Антось**—Што, пан каморнік чытае газэту? Што чуваць на сьвеці? Дзе якія навіны?... А мы сёньня гуляем!... (вясёла запявае) Галава-ж, ты мая ўдалая! (да жонкі). Ганулля, строй абед... хачу... хачу... есьці... Чаго стаіш, як стоўб?... Аглохла?... Мо' госьць ня мілы?... Надулася?... не падабаецца?... п'яны?!... Плюю на ўсё! за свае!.. строй хутчэй абед, хачу есьці—чуеш?

**Ганулля**—Ражон табе на абед. Людзі даўно ўжо павячэралі. Як табе ня сорам! Лайдак ты! Валацуга! Я цябе, п'яніцу, і ў хату ня пушчу!... Цягніся зноў туды, дзе быў!

**Антось**—Што?!... зьняважаць мяне?! Мяне, твайго гаспадара?! Я-ж табе пакажу, прынада! Я-ж цябе наўчу шанаваць дзеда! Марш у хату!!!... Там я з табой пагутару...

**Ганулля**—Так я цябе і паслухала (але ідзе да парога). Падумаеш, пан які... (пагардліва) Гаспадар!.. Ен гаспадар валандацца па кірмашы. Ты не гаспадар, а бадзяка, п'яніца!... Уладу надамной маеш?—Спрабуй толькі,—зачапі!... усе зубы выб'ю. (Хаваецца ў хату).

**Антось**—То ты так?!... (ідучы ў хату) і яшчэ пры чужых людзёх!... Я-ж цябе наўчу (хаваецца за ёй. Галінка з трывогай пазірае, відочна хоча бегчы ў хату).

ЗЬЯВА 5-я.

**Каморнік і Галінка.**

**Каморнік**—(да сябе). Ну, відочна будзе драма... Трэба Галінку адазваць (да Галінкі). Галінка! а Галінка! Пакажы, якія табе татка гасьцінцы купіў?

**Галінка**—(Подыходзе да каморніка і лезе на ганак). Вось чаравікі, маток баранкаў, а матцы хустку.

**Каморнік**—А ты, Галінка, любіш тату?

**Галінка**—Люблю.

**Каморнік**—А маму?

**Галінка**—І мамку люблю (у хаце чуваць крык і плач Ганулі. Галінка з трывогай пазірае на хату). (Працяг будзе).

зводзяцца да значнага абмежаньня ролі і значэньня гміннай рады. Адначасна значна павялічаны паўнамоцтвы і асабістая адказнасьць галоўнага прадстаўніка выканаўчае ўлады ў гміне. Але, з другога боку, гэты прадстаўнік выканаўчае ўлады ў гміне значна больш, як у папярэднім законе, падпарадкаваны органам надзорчае ўлады, якія могуць накладаць на яго навет кары ў адміністрацыйным парадку.

Характэрнай адзнакай новага закону зьяўляецца і тое, што ён уводзіць поўную аднолькавасьць самаўрадавых установаў на ўсім прасторы Польшчы, ня лічачыся з рэзкімі асаблівасьцямі яе паасобных краёў, прыкладам—беларускіх ці украінскіх тэрыторыяў.

---

**Зьмест і значэньне новага мірнага паразуменьня 8 дзяржаў на Усходзе.** Новы трактат аб узаемным ненападаньні, падпісаны 3 ліпня ў Лёндане прадстаўнікамі 8 дзяржаў: Афганістану, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Румыніі, Турцыі і СССР, адрозьніваецца ад усіх папярэдніх „пактаў аб ненападаньні“ тым, што ясна і выразна азначае, што трэба разумець пад выразамі „напад“ і „вінавайца нападу“. Новы мірны пакт прыняў за падставу тое азначэньне „нападу“, якое было запрапанавана на разбраенчай канфэрэнцыі савецкай дэлегацыяй і прынята яе камісіяй.

У сваім уступе пакт выстаўляе мэтай „умацаваньне існуючага між удзельнікамі пакту міру“, „агульнай бясьпечнасьці“, „ухіленьня ўсякага ўзаемнага нападу“, узаемнага ахаваньня і шанаваньня дзяржаўнае незалежнасьці і недатычнасьці тэрыторыі. Далей ідуць гэткія 5 артыкулаў:

1 арт. кажа аб тым, што падставай пакту зьяўляецца точнае азначэньне паняцьця „нападу“ і „вінавайцы нападу“ — паводле прапазіцыі савецкае дэлегацыі, прынятае і сфармуляванае камітэтам бясьпечнасьці канфэрэнцыі ў справе разбраеньня.

2 арт. точна фармулуе гэтае азначэньне „нападаючае староны“: „дзяржава, якая першая аб'явіць вайну другой, учыніць — навет без аб'яўленьня вайны — гвалт сухапутнымі, марскімі ці паветранымі сіламі і прыладамі вайны над тэрыторыяй, караблямі ці аэрапланамі іншае дзяржавы; наладзіць блёкаду партоў ці ўзьбярэжжа, дасьць дапамогу аружным бандам, якія, сфармаваныя на яе тэрыторыі, уварвуцца на тэрыторыю другое дзяржавы“ і т. д.

3 арт. кажа, што ніякія мяркаваньні — палітычныя, ваенныя ці эканамічныя—ня могуць тлумачыць ці апраўдаць напад у вышэй азначаным разуменьні.

Два апошнія арт. датычаць зацьвярджэньня пакту, часу ўваходу яго ў сілу і т. д.

Рэдакцыя польскае газэты „Kur. Wil.“, пішучы аб гэтым пакце, асабліва падчырківае значэньне арт. 2: з яго ясна вывікае, што польскі і савецкі ўрады абязываюцца не падтрымліваць ніякіх беларускіх і ўкраінскіх незалежніцкіх арганізацыяў, скіраваных проці суседа. „Kur. Wil.“, выказваючы свой погляд незалежніцкім імкненьням беларусаў і ўкраінцаў на савецкай тэрыторыі, рашуча заяўляе, што польскі ўрад лёяльна выканае ўзложаны на яго пактам абавязак.

**Савецкі ўрад адмаўляецца ад лёзунгу сусьветнай рэволюцыі (?).** (Сэнсацыйная заява савецкага пасла ў Францыі). Шуканьне новых сувязяў з дзяржавамі пакрысе, але грунтоўна зьмяняе характар „рэволюцыйнага“ ўраду СССР.

Характэрнай азнакай гэтага няўхільнага працэсу зьяўляецца запраўды-ж сэнсацыйная заява савецкага пасла Даўгалеўскага францускаму мін. замежн. спраў Полю Бонкуру. „Сусьветная рэволюцыя, сказаў ён, была для нас толькі абаронным мэтадам, калі Расея, (так ён і сказаў: Расея, а не СССР!...) пачувалася акружанай з усіх бакоў ворагамі, якія ўсьцяж змаўляліся проці нашай улады. Цяпер нам ужо больш непатрэбна гэтая пагроза: рабіць рэволюцыю на тылах гэтых былых ворагаў—у дзяржавах, з якімі мы цяпер завязываем дзелавыя, карысныя для абедзьвюх староў стасункі“.

**Падпісаньне „пакту 4-х“.** 15 ліпня ў Рыме формальна падпісаны так званы „Пакт 4-х“, ставараючы сталае паразуменьне вялікіх дзяржаваў Эўропы: Англіі, Францыі, Італіі і Нямеччыны — быццам у межах, а фактычна—па-за межамі Лігі Нацыяў, а гэта значыць—па-за кантролем усіх іншых—невялікіх дзяржаваў, сябраў Лігі.

**Узнаўленьне вайны Японіі з Кітаем.** Кітайскі генэрал Фэнг адмовіўся прызнаць перамірые, заключанае між Японіяй і Нанкінскім урадам. Таму японскія войскі ўзнавілі наступленьне шырокім фронтам на армію Фэнга, якая распалажылася на пагранічы з Манголіяй—у раёне места Калгана.

**Гібель літоўскіх авіятараў.** 2 літоўскія лятуны, выляцеўшыя з Нью-Іорку ў Коўну на аэрапляне „Літуаніка“, бліскуча пераляцелі акеан, але, не даляцеўшы крыху да мэты, згінулі сьмерцю слаўных у Прусіі.

---

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб чым трэба падбаць у часе жніў.

Амаль што кожны гаспадар ведае, што ня кожны гатунак збожжа родзіць аднолькава. Есьць гатункі больш ураджайныя і меней ураджайныя, ёсьць больш адпорныя на розныя хваробы, а другія гэтымі якасьцямі не вызначаюцца. Шмат хто прабаваў у сябе завадзіць лепшыя гатункі збожжа, але хутка пабачыў, што, калі некаторыя з гэтых лепшых гатункаў і падыходзяць да нашага клімату, то ў умовах нашых гаспадарак яны хутка выраджаюцца, і ураджаі іх мала чым розьняцца ад нашага „простага“ збожжа. А ўвесь час закупляць дарагое гатунковае насеньне задорага.

Усё гэта так. Але ёсьць спосабы, дзякуючы каторым можна прывозны гатунак утрымаць на пэўнай вышыні ўраджайнасьці. Мала таго, можна гэтымі спосабамі павысіць ураджайнасьць і свайго „простага" збожжа. Аб такім спосабе мы тут і будзем гаварыць.

У часе жніва трэба зьвяртаць увагу на найлепшыя каласы (але не занадта даўгія) і гэтыя каласы сьцінаць разам з часткаю сьцябла, вязаць асобна ў пучкі і гэтыя пучкі вешаць дзе-колечы пад страхою, каб высахлі. Там яны застаюцца аж да часу сяўбы. У часе сяўбы з іх дабываюць зерне. Найбольшыя і дароднейшыя зярняты адбіраюцца, а горшыя адкідаюцца. Гэтыя найлепшыя зярняты потым належыць высеяць. Толькі нельга сеяць іх так, як звычайна мы сеем. Для такога пасеву выбіраецца асобны кавалак зямлі, добра вычышчаны ад пустазельля, не залішне ўгноены, але і не залішне пусты. Сеяць трэба загадзя і абавязкова ў радкі, адлеглыя ад сябе на якіх 20 цэнтымэтраў. На другі год гэты пасеў старанна полецца і асобныя расьлінкі асыпываюцца. Калі збожжа на гэтым кавалку высьпее, яго жнуць і выбіраюць ізноў-жа найлепшыя каласы і разам з тым найбуйнейшыя, а з іх — найлепшыя зярняты. Гэтыя апошнія сеюцца ізноў паводле вышэй пададзенага спосабу, а рэшта ідзе на пасеўны матэрыял. Паступаючы такім чынам, можна ня толькі ўтрымаць ураджайнасьць добрага гатунку, але ў працягу 3—4 гадоў значна палепшыць і кепскі гатунак.

## Зрываньне цьвету.

У некаторых гаспадарчых расьлінаў можна павялічыць ураджай і палепшыць яго якасьць, калі пасьцінаць лішні цьвет. Асабліва гэта рэкамэндуецца рабіць у бобу. Калі боб працьвіце і асадзіць добрыя ісподнія струкі, тагды вяршкі з цьветам варта зрэзаць. Тады ўсе сокі будуць ісьці толькі да застаўшыхся струкоў, з якіх атрымаюцца і большыя на вагу і лепшай якасьці зярняты.

Радзіцца зрываць цьвет у бульбы, але ўжо цалком. Гэта асабліва важна для тых гатункаў, якія многа і доўга цьвітуць. Зрэзваньнем цьвету мы таксама ўсе сокі скіроўваем да клубняў, дзякуючы чаму і ўраджай іх павялічваецца.

С. А.

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 22 VII. Жыта гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Ячмень гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Авес гурт. 2 зл. 30 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Пшаніца гурт. 5 зл., дэт. 5 зл. 60 гр. Бульба стар. кілягр. 0,07 гр., дэт. 0,8 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл.—2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 50 гр.—2 зл. 80 гр., масла гаспадар. 2 зл. 20 гр.—2 зл. 60 гр. Яйкі 50-60 гр.—60-70 гр. Даляр 6 зл. 12 гр.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

### Падзел сусьветнага запасу золата.

Шмат гаворыцца на канфэрэнцыі ў Лёндане аб „павароце ўсіх дзяржаў да залатое валюты". Але-ж для гэтага трэба, каб сусьветны запас золата быў нейк больш роўна падзелены паміж дзяржавамі сьвету. Тое, што ёсьць цяпер, робіць гэтую задачу блізу безнадзейнай. Запраўды-ж—толькі 3 найбагацейшыя золатам дзяржавы сьвету: Амэрыка, Англія і Францыя — трымаюць у сваіх банках 70% усяго сусьветнага золата. Разам з Бэльгіяй, Галяндыяй і Швайцарыяй—80%. Для рэшты сьвету астаецца толькі 20%. А якраз гэтая рэшта сьвету — даўжнікі гэтых 6 вялікшых ды меншых „банкіраў сьвету", якія ўсімі мерамі ўсьцяж змушаюць сваіх даўжнікоў, каб плацілі свае пазыкі дый абавязкова золатам... Толькі за два гады—1929-1930 яны сьцягнулі з сваіх даўжнікоў звыш 400 міл. даляраў золатам. Ня дзіва, што дзяржаўныя банкі гэтых зга́леўшых на золата дзяржаў блізку цалком страцілі „залатое пакрыцьце" сваіх валютаў. Ня дзіва так сама, што гэтыя дзяржавы ня толькі адмаўляюцца сплачываць даўгі, але й бароняцца ад небясьпекі ды ад вызыску звонку мытнымі мурамі і спэцыяльнымі законамі валютнага абмену. А гэта ўсё далей руйнуе міжнародавы гандаль і паглыбляе крызіс.

Каб ратаваць палажэньне, высунулася ўжо ясна неабходнасьць новага падзелу запасу золата на сьвеце. Але—як гэта зрабіць дый як змусіць да гэтага перадзелу золата, — вось задача.

### Колькі выдаюць дзяржавы на безработных.

Каб уявіць сабе, колькі каштуе сьвету бяда безрабоцьця, падамо некалькі лічбаў, апублікаваных Міжнародавым Бюро Працы ў Жэнэве. У 1931 г. Англія выдала на падтрыманьне сваіх безработных 120 мільён. фунтаў, Нямеччына — 2.338 мільён. марак, Францыя — 652 мільёны франкаў, малая Швайцарыя—і тая выдала 37 мільён. франкаў, а Злуч. Штаты Амэрыкі — толькі ў адным верасьні 1932 г. — 50 мільён. даляраў. Але-ж усё гэта—капля ў моры. Бо-ж, паводле апошніх аблічэньняў, лічба безработных даўно ўжо перайшла за трэці дзесятак мільёнаў..

# Паштовая скрынка.

Гр. **М. Путырскаму**, в. Каралеўцы. У цікавячай вас справе выслалі да вас пісьмо. Па атрыманьні дадатковых высьвятленьняў дамо дакладную юрыдычную параду.

Гр. **Ул. Назараўцу**. Ліст вашы з рукапісамі атрымалі. Што падыйдзе, выкарыстаем. Газэты і кніжкі паслалі з гр. Кезікам. Вучыцеся, працуйце, кахаючы родную мову.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: „ТБА". Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22

42917